www.nv-online.info

№ 96 (4041)

8 снежня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**ПРАПАНОВА!**

## Лепшы навагодні падарунак – «Народная Воля»!

З якім падарункам пайсці ў госці на Новы год?
Не ламайце галаву. Лепшы падарунак бацькам, сябрам, суседзям, саслужыўцам – падпіска на “Народную Волю”
**на першую палову 2016 года.**
І танна, і арыгінальна. Шэсць месяцаў усе, каму Вы ўручыце такі падарунак, будуць з задавальненнем чытаць “Народную Волю” і добрым словам узгадваць Вас.
**Пашырым кола прыхільнікаў свабоднага, праўдзівага СЛОВА!**

**Эфір з цырымоніі ўганаравання лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі, сярод якіх і беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч, бясплатны, але замест трансляцыі са Швецыі ў нас вырашылі паказваць расійскага шоўмена Малахава… Ці ж не дзікунства гэта беларускіх тэлерадыёначальнікаў і тых, хто імі камандуе?**



Фото с архива.

## Нобелевский банкет

*Дама-писательница всегда сидит с королем*

Первый Нобелевский банкет состоялся 10 декабря 1901 года одновременно с первым вручением премии. В настоящее время банкет проводят в Голубом зале городской ратуши. На банкет приглашаются 1300–1400 человек. Дама-писательница сидит с королем. Или это почетное место занимает жена старшего лауреата по физике. Атмосфера очень демократичная, что-то среднее между королевским приемом, молодежной вечеринкой и семейным торжеством. Двести мест по традиции отводят студентам.

В разработке меню принимают участие повара «Погребка ратуши» (ресторан при ратуше) и кулинары, когда-либо получавшие звание «Повар года». В сентябре три варианта меню дегустируются членами Нобелевского комитета, которые решают, что будет подаваться «к столу Нобеля». Всегда известен только десерт – мороженое, но до вечера 10 декабря никто, кроме узкого круга посвященных, не знает, какого сорта.

Для Нобелевского банкета используется сервиз и скатерти со специально разработанным дизайном. На уголке каждой скатерти и салфетки выткан портрет Нобеля. Посуда ручной работы: по краю тарелки проходит полоса из трех цветов шведского ампира – синий, зеленый и золото. В такой же гамме украшена ножка хрустального фужера. Сервиз для банкетов был заказан за 1,6 миллиона долларов к 90-летию Нобелевской премии в 1991 году. Он состоит из 6750 бокалов, 9450 ножей и вилок, 9550 тарелок и одной чайной чашки. Последняя – для принцессы Лилианы (1915–2013), которая не пила кофе. Чашка хранится в специальной красивой коробке из дерева с монограммой принцессы. Блюдце от чашки было похищено.

Столы в зале расставляют с математической точностью, а зал украшают 23.000 цветов, присылаемых из Сан-Ремо. Все движения официантов строго прохронометрированы с точностью до секунды. Например, торжественный внос мороженого занимает ровно три минуты с момента появления в дверях первого официанта с подносом до того, как последний из них встанет у своего стола. Подача других блюд занимает две минуты.

Ровно в 19 часов 10 декабря почетные гости во главе с королем и королевой спускаются по лестнице в Голубой зал, где уже сидят все приглашенные. Шведский король ведет под руку нобелевскую лауреатку, а если таковой не окажется – жену нобелевского лауреата по физике. Первым произносится тост за Его Величество, вторым – в память Альфреда Нобеля. После этого раскрывается тайна меню. Во время всего ужина звучит музыка – приглашаются очень знаменитые музыканты.

Банкет завершается выносом мороженого, увенчанного, как короной, шоколадной монограммой-вензелем «N». В 22.15 шведский король дает знак к началу танцев в Золотом зале ратуши. В 1.30 гости расходятся.

Абсолютно все блюда из меню, начиная с 1901 года и далее, можно заказать в ресторане ратуши Стокгольма. Стоит такой обед немногим менее 200 долларов США. Ежегодно их заказывают 20 тысяч посетителей, и традиционно наибольшей популярностью пользуется меню последнего нобелевского банкета.

**УЧОРА**

## Святлана АЛЕКСІЕВІЧ: «Мы зноў уступілі ў эпоху варварства»

*Учора, 7 снежня, незадоўга перад пачаткам сваёй Нобелеўскай лекцыі **Святлана Алексіевіч** сустрэлася са шведскай публікай у Гарадскім тэатры Швецыі. Квіткі мог набыць кожны жадаючы, зала была цалкам запоўнена. Пытанні Алексіевіч задавала міністр замежных спраў Швецыі **Маргот Вальстрэм**.*

*“Народная Воля” прапануе чытачам самыя цікавыя адказы нашай нобелеўскай лаўрэаткі. Яны прысвечаны як настаўніку Алексіевіч – Алесю Адамовічу, так і сучаснай Расіі.*

### Праўда не змяшчаецца ў адзін розум

– Я вырасла ў вёсцы, мае бацькі – вясковыя настаўнікі. Пасля вайны ў беларускай вёсцы, дзе мы жылі, былі толькі жанчыны, мужчыны загінулі. Гэтыя старыя жанчыны ўвечары збіраліся на лаўках, сядзелі, размаўлялі пра сваіх мужоў, пра вайну, плакалі.

Усё жыццё я памятаю танальнасць гэтых расповедаў. Я закончыла факультэт журналістыкі і пасля доўга шукала сябе. Але калі ты начуеш у вёсцы і пачынаеш увечары размаўляць з гаспадыняй, гэта былі ўражвальныя гадзіны. Трэба сказаць пра славянскую традыцыю. Распавядаць, плакаць, гаварыць адно з адным – гэта цэлае мастацтва.

Такая традыцыя запісваць існавала яшчэ з часоў Першай сусветнай вайны. Але гэта былі такія запісы размоў з параненымі, спробы такой вуснай гісторыі. А пасля ў Беларусі выйшла кніга Алеся Адамовіча і яшчэ двух пісьменнікаў, але ідэя была Алеся Адамовіча. Яны запісалі людзей, якія цудам засталіся жывыя, калі немцы палілі вёскі. І калі я прачытала гэтую кнігу, адразу пачула галасы сваёй вёскі. Было адчуванне, што вось ён – шлях, бо да гэтага мяне вельмі мучыла, што праўда не змяшчаецца ў адну свядомасць, адзін розум. А вось з гэтых галасоў адчуванне, што гэта раман.

### Сучасны пісьменнік не можа казаць, што забіваць – гэта добра

– Ёсць такі конкурс «Большая книга» ў Расіі. Я таксама была там сярод прэтэндэнтаў. Там быў такі пісьменнік Прылепін. Першае, што ён стаў казаць, гэта як ваююць расійскія людзі ў Данбасе, якія яны героі. У нас на публіцы была размова, і я яму сказала, што сучасны пісьменнік не можа казаць, што забіваць – гэта добра.

Я бачыла вайну ў Афганістане, калі ездзіла і пісала кнігу, размаўляла ў Кіеве з уцекачамі з Данбаса. Чалавек не можа любіць вайну. Мы цяпер жывём у такім часе, што можна сказаць, што мы зноў уступілі ў эпоху варварства.

Нядаўна я сяджу ў чарзе да зубнога доктара і чую, як мужчыны размаўляюць адзін з адным: «Ты разумееш, якая зброя цяпер у расійцаў, за 1500 кіламетраў у Сірыі кагосьці забілі». Гэта такое захапленне... Побач сядзелі мужчыны, і было відаць, што ім падабаецца гэтая размова, падабаецца, што гэтая моцная зброя ў рускіх. Але я не бачыла ніводнай жанчыны ў чарзе, якой бы гэта падабалася.

(Радыё Свабода.)

**ЗА ПРАХАДНОЙ**

## На ААТ «Полацк-Шкловалакно» рабочым забараняюць размаўляць па тэлефонах

Загад №832 «Аб забароне выкарыстання асабістых мабільных тэлефонаў, планшэтаў не ў службовых мэтах» быў падпісаны генеральным дырэктарам прадпрыемства ў лістападзе. Рабочыя называюць такую меру поўным глупствам. А кіраўніцтва ААТ «Шкловалакно» лічыць, што завадчане занадта часта карыстаюцца сродкамі сувязі для асабістых размоў. Вось толькі як вызначыць, з якой мэтай работнік зрабіў той ці іншы званок?

*– Гэта асобнае пытанне і нават не ведаю, як будуць вызначаць званкі,* – сказаў «Народнай Волі» намеснік кіраўніка Свабоднага прафсаюза на «Шкловалакне» **Мікалай Шарах**.

*– Якое пакаранне будзе за выкарыстанне тэлефона – не пазначана. Але ёсць асобны дэкрэт, па якім можна звольніць работніка за парушэнне дысцыпліны. Адным словам, хапае розных нюансаў, якія можна выкарыстоўваць для рэпрэсій.*

Мікалай Шарах лічыць, што падобныя загады накіраваны на запалохванне рабочых прадпрыемства. Нягледзячы на тое, што работа на «Шкловалакне» з’яўляецца шкоднай для здароўя, умовы працы для работнікаў не зусім здавальняючыя.

Не так даўно «Народная Воля» паведамляла пра калектыўны зварот працоўных «Шкловалакна» ў Свабодны прафсаюз з-за перабояў з вадой на прадпрыемстве. У сувязі з рамонтнымі работамі завадчане не маглі прыняць душ пасля змены і вымушаны былі вяртацца дамоў у неахайным выглядзе. Кіраўніцтва не папярэдзіла рабочых аб часовых нязручнасцях і нават не выбачылася.

*– Стаўленне да людзей не самае лепшае,* – адзначае прафсаюзны дзеяч. *– Са снежня на заводзе заявілі аб павышэнні зарплаты, але пры гэтым перастала выплачвацца індэксацыя. Індэксацыя складала 200 тысяч рублёў, а павышэнне адбылося на 100 тысяч. Гаворка ішла аб павышэнні заробку, Але, як бачым, гэта зніжэнне.*

Непавага з боку кіраўніцтва назапашвае ў людзях незадаволенасць. Але, на думку Мікалая Шараха, адкрыта пратэставаць і змагацца за свае правы людзі пакуль не гатовы.

ААТ «Полацк-Шкловалакно» на сённяшні дзень – лідзіруючае прадпрыемства ў Полацкім рэгіёне па ўзроўні заробкаў. Але з-за шкодных умоў працы рабочыя завода не лічаць 6–7 мільёнаў вялікімі грашыма.

Адзначым, што ў жніўні гэтага года генеральным дырэктарам прадпрыемства стаў **Андрэй Бунакоў**, які да гэтага ўзначальваў «Светлагорск-Хімвалакно». Калектыў прадпрыемства звязваў з прыходам новага кіраўніка надзею на павышэнне заробкаў, паляпшэнне ўмоў работы і выхад прадпрыемства на больш высокі вытворчы ўзровень.

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

## Чаму Алексіевіч засталася па-за ўвагай БТ?

Учора ў Стакгольме адбылося ўручэнне Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры. Упершыню ў гісторыі яе ўладальніцай стала прадстаўніца Беларусі Святлана Алексіевіч. Здавалася б, вось яна, самая значная падзея, пра якую павінны расказваць беларусам літаральна з кожнага праса. Але…

Зранку і днём у панядзелак, калі да ўручэння Нобеля заставаліся лічаныя гадзіны, у выпусках навін у эфіры Першага канала беларускага радыё, які, як вядома, уваходзіць у структуру Белтэлерадыёкампаніі, пра беларуску, якая ўганаравана вышэйшай узнагародай свету, не было сказана ані слоўца!

“Народная Воля” звязалася з Аляксандрам Шустарам, які ў той дзень вёў ранішнія радыёвыпускі навін, і задала наступнае пытанне: “Чаму ў эфіры няма ніякай інфармацыі пра ўручэнне Нобелеўскай прэміі Святлане Алексіевіч?”

Вось што нам адказаў вядучы навінных блокаў:

*– На самай справе адказ даволі просты. Мы даём толькі афіцыйную інфармацыю з ленты БЕЛТА* (дзяржаўнае інфармацыйнае агенцтва. – **Аўт.**). *Ну, і ўласную – ад карэспандэнтаў, якія асвятляюць падзеі асабіста. На жаль, са Святланай Алексіевіч у Стакгольм ніхто не паляцеў.*

Дзяржаўнае тэлебачанне ў сваю чаргу патлумачыла адмову ад паказу прамой трансляцыі цырымоніі ўручэння Нобелеўскай прэміі Святлане Алексіевіч наяўнасцю пэўных “тэхнічных, фінансавых і юрыдычных пытанняў”. Але што перашкаджала прачытаць у тэлерадыёэфіры навіну, якую ў гэтыя дні паведамляюць вядучыя навінных выпускаў па ўсім свеце? Проста ўзяць і прачытаць?!

Відавочна, што справа зусім не ў тэхнічных прычынах.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

**В МИРЕ**

## Победила оппозиция Венесуэлы



На парламентских выборах в Венесуэле победу одержал оппозиционный блок «Круглый стол демократического единства». Согласно данным Национального избирательного совета, оппозиция получила 99 депутатских мест из 167 в однопалатной Национальной ассамблее. Правящей Единой социалистической партии Венесуэлы, согласно предварительным данным, достанется 46 мест.

Таким образом, впервые за 17 лет – со времени прихода к власти Уго Чавеса – социалисты потеряли большинство в венесуэльском парламенте. Явка на выборах, состоявшихся в минувшее воскресенье, составила 74,25%.

**СТИХИЯ**

## Улицы ушли под воду

Затоплены стадион, улицы, десятки тысяч домов остались без электричества. Британское графство Камбрия накрыло мощное наводнение, ставшее результатом шторма «Десмонд». Города и села были затоплены вышедшими из берегов реками. Порывы ветра достигали 120 метров в секунду.

В некоторых домах уровень воды доходит до пояса и выше.

**ПАД ГРАДУСАМ**

## Снег чакаецца толькі на выхадных

*На гэтым тыдні будзе амаль вясна.*



Паводле слоў начальніка службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага гідраметэацэнтра **Дзмітрыя Рабава,** ***у аўторак*** па ўсходзе краіны чакаецца ўзмацненне ветру парывамі да 15–20 м/с. Мінімальная тэмпература ўначы складзе -1…+5°C, максімальная днём +1…+ 7°C.

Ападкі магчымы толькі ***ў чацвер*** і пройдуць месцамі.

***9 снежня*** мінімальная тэмпература ноччу 0…-5°C, максімальная днём 0…+5°C.

***10 снежня*** ўзровень тэмпературы прагназуецца ноччу -2…+3°C, максімальная днём 0…+6°C.

***11 снежня***, у пятніцу, мінімальная тэмпература ўначы складзе -2…+3°C, максімальная днём 0…+6°C.

***У выхадныя*** дні надвор’е пагоршыцца, праз Беларусь будуць праходзіць атмасферныя франты з Заходняй Еўропы. Часам ападкі (мокры снег, дождж).

Месцамі слабы туман, галалёд. Тэмпература паветра мінімальная ноччу -3…+2°C, максімальная днём -2…+4°C.

**Вера ВІР.**

**АКТУАЛІІ**



Святлана КАЛІНКІНА

## Памылачка выйшла

У мінулую нядзелю Арменія прагаласавала за пераход ад прэзідэнцкай да парламенцкай формы кіравання. Унясенне змен у Канстытуцыю ініцыяваў сам прэзідэнт Серж Саргсян.

Калі б такое развіццё падзей адбылося ў Беларусі, апазіцыя, напэўна, зладзіла б масавае святкаванне. А вось апазіцыя Арменіі выступіла супраць і, наадварот, выйшла на акцыі пратэсту. Справа ў тым, што тэрмін паўнамоцтваў Сержа Саргсяна заканчваецца ў 2018 годзе, і пасля гэтага балатавацца на прэзідэнцкую пасаду ён проста не мае права. Пераход жа да парламенцкай формы кіравання дазваляе Сержу Саргсяну заставацца кіраўніком дзяржавы: не прэзідэнтам, але прэм’ер-міністрам ці кіраўніком Нацыянальнага сходу – галоўнага заканадаўчага органа Арменіі. Прычым якую заўгодна колькасць тэрмінаў: дастаткова, каб партыя, якую ўзначальвае Саргсян – Рэспубліканская партыя Арменіі, перамагала на парламенцкіх выбарах.

Апазіцыя Арменіі лічыць, што гэта хітры крок С.Саргсяна да ўзурпацыі ўлады.

Яго прыхільнікі спасылаюцца на вопыт той жа Германіі, якую ніхто не называе недэмакратычнай краінай, хаця абраныя па такой жа схеме нямецкія канцлеры захоўваюць свае паўнамоцтвы неабмежаваны тэрмін. Напрыклад, Гельмут Коль быў канцлерам 16 гадоў, Ангела Меркель – ужо дзесяць і сыходзіць не збіраецца.

Безумоўна, кожная краіна мае свае асаблівасці. Не выпадае параўноўваць Арменію і Германію, хаця б зыходзячы з узроўню правядзення выбараў. Гэтаксама не выпадае параўноваць Арменію і Беларусь хаця б таму, што за гады суверэнітэту Арменія мела трох прэзідэнтаў (Левон Тэр-Петрасян, Роберт Качаран і Серж Саргсян), а Беларусь толькі аднаго – Аляксандра Лукашэнку. Аднак тое, што на постсавецкай прасторы створаны прэцэдэнт адмовы ад прэзідэнцкай формы кіравання, гэта вельмі і вельмі важна.

Чаму ў свой час у Беларусі вырашылі ўвесці пасаду прэзідэнта? Таму што ва ўсіх іншых постсавецкіх краінах (дарэчы, і ў той жа Арменіі) ужо былі прэзідэнты. Мы, так бы мовіць, пайшлі на гэты крок за кампанію. Хаця тагачасная парламенцкая апазіцыя папярэджвала: пасада прэзідэнта дае вялікія магчымасці да канцэнтрацыі ўлады ў адных руках, да аўтарытарызму і канфліктаў. Праціўнікі ўвядзення прэзідэнцкай пасады даводзілі, што нашай краіне – кампактнай, аднароднай і не вельмі вопытнай у дэмакратыі – важна шукаць згоду і кампрамісы ўнутры сябе, паміж рознымі палітычнымі сіламі і групоўкамі. Таму для нас больш прымальная менавіта парламенцкая форма кіравання.

Але хто ж тады, на пачатку 1990-х, хто каго чуў?

Зараз многія працверазіліся, пабачыўшы, да чаго прыводзіць канцэнтрацыя ўлады ў адных руках. Нават вопытныя партыйныя функцыянеры прызнаюць, што ў савецкай сістэме дэмакратыі не было, але сама сістэма была больш справядлівай і больш дэмакратычнай. Таму што ўсе рашэнні прымаліся калегіяльна, і ніхто – ні сакратар ЦК партыі саюзнай рэспублікі, ні нават генеральны сакратар – нічога не рабіў аднаасобна.

Працверазіцца мы працверазіліся, толькі што цяпер рабіць, як выпраўляць сітуацыю? У гэтым сэнсе, паўтараю, прыклад Арменіі вельмі важны.

Наша апазіцыя ўвесь час спрабавала змяніць сітуацыю, канцэнтруючыся менавіта на выбарчай кампаніі, і нязменна білася лбом у сцяну. Хаця галасы пра тое, што самы аптымальны шлях для нашай краіны – увогуле адмовіцца ад прэзідэнцкай пасады, таксама гучалі. Праўда, гучалі ціха, не на шырокую аўдыторыю, а сярод экспертнай супольнасці. Дык, можа, настаў час агучыць гэту ініцыятыву гучна, моцна?

Ад Аляксандра Лукашэнкі мы гэтага, відавочна, не дачакаемся. А вось апазіцыя магла б дзейнічаць менавіта ў гэтым накірунку. Памылкі ж рана ці позна трэба выпраўляць.

**З АРХІВА**

## Існуе меркаванне, што Канстытуцыя Беларусі рабілася «пад Вячаслава Кебіча». Ці праўда гэта?

**Аляксандр КУР’ЯНОВІЧ, юрыст, гісторык, даследчык перыяду 1990-х гадоў:**

– Канстытуцыя сапраўды рабілася пад тагачаснага прэм’ер-міністра Беларусі Вячаслава Кебіча. У яго была дэпутацкая група «Беларусь», адна з самых шматлікіх, якая, адпаведна, гэтую ідэю прэзідэнцкай рэспублікі і лабіравала. І бліжэйшае атачэнне прэм’ера штодня нашэптвала яму, што ён ужо без пяці хвілін прэзідэнт і што ўсё гэта лёгка і проста.

## Ці магла Беларусь стаць парламенцкай дзяржавай?

**Валянцін ГОЛУБЕЎ, дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання, фракцыя БНФ:**

– Мы прыйшлі да высновы, што Беларусь павінна быць парламенцкай дзяржавай з невялікім парламентам, прыблізна 140–160 чалавек. Мы не адмаўляліся ад парламенцкай дзяржавы з наяўнасцю прэзідэнцкай пасады, гэта вопыт Германіі і Ізраіля. Гэта нам падышло б. Нам не быў патрэбны цар, нам быў патрэбны арбітр, які выконваў бы толькі прадстаўнічыя функцыі і функцыі трацейскага суддзі. Але ў выніку большасць пад ціскам прагаласавала за прэзідэнцкую рэспубліку.

## Дзякуючы каму ў Беларусі з’явілася прэзідэнцкая форма кіравання?

**Сяргей НАВУМЧЫК, дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання, фракцыя БНФ:**

– За прэзідэнцкія раздзелы галасавалі не толькі дэпутаты з парламенцкай большасці, якія былі падпарадкаваны Вячаславу Кебічу, – іх было больш за палову, але не дзве трэці, – за гэта ўжо галасавалі і агітавалі таксама «маладыя ваўкі» Віктар Ганчар, Дзмітрый Булахаў, Віктар Шэйман, Аляксандр Лукашэнка, якія рабілі стаўку на Лукашэнку. За гэта выступаў, напрыклад, і Генадзь Карпенка, які ў сваёй фракцыі меў чалавек 10–15.

